


№ 18 (131)
**Май 2006 года**

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:


- Рэгіён: краязнаўчыя даследаванні пра Жукаў Барок і Талькаўшчыну – *стар. 4 і 6*
- Асоба: адоранасць і трагедыя Яна Чачота – *стар. 5*





## Наша Яўгенія Фамінічна

*Яна нарадзілася 24 красавіка 1925 года на Уздзеншчыне, удзельніца Вялікай Айчыннай вайны, вязень Пішчалаўскага замка ў Мінску. Пасля вайны скончыла БДУ. З гонарам успамінае сяброўства з Алесем Адамовічам і Міколам Ермаловічам. Яна і сёння выкладае гісторыю ў ліцэі № 16 г. Мінска.*

*Удзячныя вучні і журналіст Аляксей ШАЛАХОЎСКІ*

## Жыццяпіс Шацка

Сярод беларускіх мястэчак сваю вядомасць мае і Шацк – старажытнае паселішча Пухавіцкага раёна. Наталля Вайцэховіч, настаўніца мясцовай сярэдняй школы, яшчэ ў 1998 годзе выпусціла асобнай кніжачкай «біяграфію» роднага Шацка. А напрыканцы мінулага года пабачыла свет яшчэ адна кніга шацкага краязнаўца – «Мае землякі». Зусім не выпадкова Віктар Хурсік (ён жа і выдавец работы Н. Вайцэховіч) прадмову да «Маіх землякоў» назваў «Песнярка Шацка». І вось што піша выдавец: «Наталля Мікалаеўна Вайцэховіч шмат пабачыла на сваім шляху, багата дзе пабывала. Але ад адзінай кропкі на карце – беларускага мястэчка Шацк, яна ніколі не адрывалася. Вярталася сюды калі не яўна, то ў снах. І так важна, што з-за тых далёкіх падарожжаў не ўсё забылася ў жыцці. Зараз Наталля Мікалаеўна жыве ў роднай вёсцы і галоўнае ў яе сталася – яна адбылася як асоба, яе ведаюць краязнаўцы раёна і краіны, да яе ідуць людзі, ёй дасылаюць лісты...»

«Мае землякі» складзены з наступных раздзелаў: «Наш Шацк», «Маім калегам прысвячаю», «Людзям у белых халатах», «Будзе хлеб, будзе і песня», «Тая завадская прахадная», «Народныя абраннікі», «Горкія лёсы», «Абаронцам Айчыны прысвячаецца», «Жыццё кароткае, Айчына вечная», «Пісьмо аўтару», «Таленту у жыцці», «Наша дзяцінства ва ўспамінах», «Летапіс роднай вёскі». Багата ілюстраваная кніга закранае ў асноўным апошнія 50–70 гадоў у біяграфіі Шацка. Біяграфія мястэчка пададзена праз лёсы землякоў, часам – зусім простых людзей.

Асабліва ўважлівая настаўнік-краязнаўца да ролі інтэлігенцыі ў жыцці Шацка. Пагадзіцеся, у гэтым па сённяшнім часе ёсць пэўная адметнасць. Інтэлігенцыя, настаўніцтва не ў вялікай сёння пашане. Наталля Вайцэховіч акрамя ўсяго іншага яшчэ і дачка настаўніка, вырасла ў Шацку, скончыла мясцовую школу.

Праз невялікія замалёўкі, пераказ фактаў, звязаных з працай многіх педагогаў, Наталля Вайцэховіч падрабязна спыняецца на гісторыі асветніцтва ў Шацку. Не забываецца аўтар і на тых, хто вучыў дзетак у пачатковых школах у ваколіцах Шацка. А гэта – Л.П. Бокун, Г.С. Кузняцова, С.П. Сакавец, Г.А. Нікіціна. Праўда, часам аўтару у расповедзе пра цікавых людзей бракуе дэталяў. Але, магчыма, гэтая акалічнасць будзе выпраўлена ў наступных публікацыях і самой Н. Вайцэховіч, і тых, хто следам за ёй будзе даследаваць гісторыю Шацка, ваколіц, лёсы жыхароў мястэчка.

Між іншым, сярод выпускнікоў Шацкай сярэдняй школы ёсць нямала цікавых, адметных асоб, якія зрабілі кар'еру у навуцы, дасягнулі значных вышыняў у працоўнай дзейнасці. Выкладчыкамі ВНУ сталі Георгій Бокун, Дзмітрый Гайдукевіч, Таісія Доўнар. Кіраўнікамі буйных мінскіх прадпрыемстваў Васіль Пірагоўскі, Мікалай Душэйка. Можна было б яшчэ і далей згадваць і згадваць імёны яркіх, таленавітых асоб.

Аснова кнігі, яе галоўны краязнаўчы складальнік – матэрыялы, звязаныя з гісторыяй Вялікай Айчыннай вайны. Аўтар спыняе чытацкую увагу на найбольш шчымлівых эпізодах, расказвае гісторыю ўзнікнення помнікаў, падае спісы не толькі загінулых у віхуры вайны, але і ўсіх яе ўдзельнікаў з ліку жыхароў Шацкага сельсавета.

Выдадзены дзве кнігі Наталлі Ільінічны (яшчэ адна пра Тальку і ваколіцы). Мікалай Гурын выдаў зборнік матэрыялаў па партызанскай гісторыі Пухавіччыны. Літаратурным краязнаўствам займаецца Бранiслаў Зубкоўскі. Выступае ў друку дырэктар раённага краязнаўчага музея Аляксандр Прановіч. Шмат намаганняў па арганізацыі краязнаўчай работы сярод вучняў прыкладвае настаўнік гісторыі СШ № 1 горада Мар'іна Горка Барыс Муха. Велізарную колькасць матэрыялаў па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны за дзесяцігоддзі напружаных росшукаў сабраў Сяргей Сіпач з вёскі Гарэлец. Намаганнямі аддзела адукацыі Пухавіцкага райвыканкама праведзены цэлы шэраг канферэнцый па гісторыі рэгіёна.

Гэта дазваляе зрабіць высновы, што ў школах раёна як спецыяльны курс можна выкладаць «Пухавічазнаўства». Чаму б ужо зараз не выдаць калектыўны зборнік артыкулаў на гэту тэму? Мо праца ў гэтым накірунку падштурхнула б да заняткаў краязнаўствам і іншых настаўнікаў і проста аматараў вывучэння гісторыі роднай старонкі?

*Алесь КАРЛЮКЕВІЧ*

## Незвычайная гасцініца

**Яна адкрылася ў Слоніме нядаўна і прызначана не для людзей, а... для птушак. Так, так! Па ініцыятыве Рады Слонімскага раённага аддзялення грамадскай арганізацыі «Ахова птушак Бацькаўшчыны» ў горадзе быў створаны прытулак для дзікіх птушак, якія трапілі ў небяспеку. Адкрыццё гасцініцы-прытулку сталася першым буйнамаштабным праектам маладога аддзялення АПБ у Слоніме, і назва яго адпаведная – «Ластаўка». Першая ластаўка!**

(Працяг тэмы на стар. 2)

## На тым тыдні...

• 26 красавіка ў вучэбным корпусе № 5 БДПУ імя М. Танка прайшла Рэспубліканская навукова-метадычная канферэнцыя «Краязнаўчая адукацыя і грамадзянскае выхаванне», наладжаная Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь, Установай адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя Максіма Танка», факультэтам народнай культуры, кафедрай этналогіі і фалькларыстыкі. Пачалася канферэнцыя з пленарнага пасяджэння; потым былі экскурсіі па музеі, выставе і майстэрнях факультэта народнай культуры; праца секцый; круглы стол. У канферэнцыі прынялі ўдзел знакамітыя вучоныя, выкладчыкі, краязнаўцы.

Сярод мноства цікавых і разнастайных па сваёй тэматыцы дакладаў асабліва запомніўся выступ дырэктара Народнага музея СШ № 3 г. Мёры Вітаўта Ермалёнка, які паведаміў пра накірункі дзейнасці школьнага археолага-краязнаўчага гуртка. У прыватнасці, ён цікава расказаў пра тое, як некалі яму разам з вучнямі давodзілася абараняць ад самадурства старшыні калгаса пахаванні старажытных людзей, якія маюць вялікую навуковую каштоўнасць.

• Напярэдадні юбілею Брэсцкага чыгуначнага вакзала, якому сёлета спаўняецца 120 гадоў, адбылася прэзентацыя кнігі «Брестский железнодорожный вокзал – западные ворота страны». Для жыхароў і гасцей Брэста кніга будзе добрым падарункам.





*Чытацкі водгук*

## Паважаная рэдакцыя «Краязнаўчай газеты»!

У нумары 2 за 2006 год быў надрукаваны артыкул Ганны Кулеш «Паміж Вяллей і Іллёй», дзе аўтарка актыўна тлумачыла паходжанне вядомых ёй тапонімаў з родных мясцін. Мяне зацікавіла назва «Сморкава», якая па словах спадарыні Кулеш, паходзіць ад назвы меры плошчы ў Польшчы і ВКЛ – морга. Я зацікавіўся гэтай назвай таму, што калісь у Свіслацкай воласці ВКЛ, частка зямель якой зараз уваходзіць у Асіповіцкі раён (а я сам жыву ў Асіповічах), было так званае «Мархотава» балота, якое згадваецца ў інвентары Свіслацкай воласці 1560 года. Мне здаецца, што назва «Мархотава» чымсьці падобна да «Сморкава».

У мяне ёсць свой варыянт тлумачэння паходжання гэтых тапонімаў. Па-першае, нельга не заўважыць, што яны створаны, верагодней за ўсё, ад нейкага прозвішча або мянушкі: Мархот – Мархотава, Сморк – Сморкава. Аднак адкуль узяліся такія прозвішчы ці мянушкі? Магчыма, адказ на гэтае пытанне трэба шукаць у фінскай мове, з якой слова «морко» перакладаецца як пярэварацень.

Такім чынам, можна ўявіць сабе, што некалі былі такія людзі ці міфічныя істоты, якія атрымалі мянушкі Мархот ці Сморк з-за таго, што мелі, на думку мясцовых жыхароў, нейкае дачыненне да цёмных сілаў.

Таму лічу, што і назвы «Мархотава» ці «Сморкава» могуць мець больш глыбокія гістарычныя карані, чым эпоха феадалізму.

*Юрый КЛЕВАНЕЦ, г. Асіповічы*



*Дрысвяты, што ў сённяшнім Браслаўскім раёне, былі калісьці добра вядомыя. Найперш Дрысвяцкім замкам, які існаваў у XIV–XVII стст., а таксама тым, што іх наведалі фламандскі рыцар і падарожнік Ж. дэ Лянсі (1413), нямецкі дыпламат і вандроўнік С. Герберштэйн (1517).*

*Міхась МАЛІНОЎСКІ*

*На фота К. ЧАЛКІНА (г.п. Відзы): Царква Св. Пятра і Паўла ў Дрысвятах.*

## Сучасныя беларускія краязнаўцы

*Матэрыялы да слоўніка*

**Скрабатун** Уладзімір Іванавіч (н. 23.01.1955, в. Кавалеўшчына Глыбоцкага р-на Віцебскай вобл.), журналіст, будаўнік. Скончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум (1978), вучыўся ў Рыжскім палітэхнічным інстытуце. Жыў у г. Вентспілс (Латвія). У 1993 г. вярнуўся на радзіму, жыве ў Глыбокім. Настаўнікаў у краязнаўстве не меў, займаўся самаадукацыяй. Вывучае гісторыю населеных пунктаў Глыбоччыны, помнікі архітэктуры, біяграфіі знакамітых землякоў. Удзельнічаў у стварэнні кнігі «Памяць. Глыбоцкі раён».

Тв.: Глыбокае на старых паштоўках. Мінск–Глыбокае, 1998.

**Слабодзін** Аляксандр Генадзьевіч (н. 03.10.1961, г. Орша), прадпрымальнік. Скончыў БДУ (1987), Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь (1994). Вывучае гістарычную спадчыну Беларусі. Заснавальнік і выдавец часопіса «Колокола времён».

**Смалянчук** Аляксандр Фёдаравіч (н. 23.05.1959, п. Казлоўшчына Слонімскага р-на Гродзенскай вобл.), кандыдат гістарычных навук (1995). Працуе ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце, які скончыў у 1981 г. Настаўнікамі лічыць Ю. Ядкоўскага, Я. Тышкевіча, М. Ткачова. Вывучае баявыя дзеянні на Гродзеншчыне ў 1941–1944 гг., культуру і адукацыю, жыццё нацыянальных суполак. У 2000 г. кіраваў краязнаўчай экспедыцыяй на радзіму Р. Скірмунта ў в. Парэчча Пінскага раёна.

**Смілавіцкі** Леанід Львовіч (н. 15.08.1955, г. Рэчыца Гомельскай вобл.), гісторык, доктар гістарычных навук. Скончыў Мінскі педінстытут (1977). Працуе ў Інстытуце дыяспары пры Тэль-Авіўскім універсітэце. Краязнаўствам пачаў займацца з 1981 г., калі працаваў у Мінскім інстытуце культуры. Настаўнікамі лічыць Г. Штыхава, М. Гнеўку, А. Грыцкевіча. Вывучае гісторыю яўрэяў Беларусі, асабліва – Рэчыцы і Турава.

Тв.: Евреи Беларуси. Из нашей общей истории. 1905–1953 гг. Мн., 1999; Катастрофа евреев Беларуси. 1941–1944. Тель-Авив, 2000.

**Содаль** Уладзімір Ільіч (н. 13.09.1937, в. Мормаль Жлобінскага р-на Гомельскай вобл.), пісьменнік. Скончыў Мінскі педінстытут (1963). Працаваў на Беларускім тэлебачанні, рыхтаваў тэлечасопіс «Роднае слова». Да краязнаўчых росшукаў далучыўся самастойна. Займаецца літаратурным краязнаўствам, звязаным з постацямі В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Ядвігіна Ш., Я. Купалы, М. Багдановіча, А. Уласава.

Тв.: Людзьмі звацца. Мн., 1977; Пуцявінамі сейбіта. Мн., 1982; Францішак Бенядзікт Багушэвіч. Мн., 1986; Кушлянскі кут. Мн., 1990; Сцежкамі Мацвея Бурачка. Мн., 1991; Жупранская старонка. Мн., 1992; Тут бачу свой край. Мн., 1994; Свіранскія крэскі. Мн., 1995; Вінцэнт Якуб Дунін-Марцінкевіч. Мн., 1997; Карпілаўка. Мн., 2001.



*Л. Смілавіцкі*



*Ул. Содаль*

## Незвычайная гасцініца

*(Заканчэнне.*
*Пачатак на стар. 1)*

Месца, дзе размясціўся прытулак, таксама невыпадковае. Гэта раённая станцыя юных натуралістаў, якая здаўна славілася як цёплы і ўтульны дом, куды спагадлівыя людзі заўжды прыносілі падбітых ды нямоглых звяркоў і птушак. Часцей, вядома, апошніх. І хто тут толькі не перабываў! Буслы і галубы, гілі і гракі, чорны каршун і нават арол-маркут... У гэтым доме працавалі і працуюць чулыя і міласэрныя людзі, якія, як ніхто іншы, могуць паклапаціцца аб братах нашых меншых, якім бывае патрэбна дапамога. Бо надта ж часта яны трапляюць у бяду па віне чалавека. Аўтадарогі, чыгунка, лініі электраперадач, шкло вокнаў і вітрынаў – гэта толькі нямногія пастку/пераджэнні цывілізацыі, ад якіх пакутуюць нашы крылатыя і калматыя, двухногія і чатырохногія сябры. Нарэшце, у доме юнната заўсёды шмат дзяцей, якія любяць жывёл і могуць дапамагчы дарослым клапаціцца аб іх. І хто, скажыце, лепей зразумее маленькую жывую істоту, як не дзіця? Бо яно – такая ж маленькая істота, чыстая і спагадлівая. Гэтыя якасці юных наведнікаў станцыі юнната павінны развіваць зносіны з пастаяльцам прытулку.

Свята з нагоды адкрыцця «Ластаўкі» адбылося 7 красавіка, калі па праваслаўным календары адзначаецца свята Дабравешчання. А ў гэты дзень, як вядома, «птушка гнязда не ўе, дзеўка касу не пляце»... Мы ж «звілі» гасцінае, цёплае гняздзечка для нашых крылатых сяброў, у якім яшчэ ўзімку пасяліўся адзін пастаялец – лебедзь-шыпун. Буйную прыгожую птушку выратавалі сябры Слонімскага аддзялення АПБ з дапамогай супрацоўніка інспекцыі па ахове жывёльнага і расліннага свету, прывёзшы яе з аддаленай вёскі Вербалаты. Некаторы час лебедзь, паранены, верагодна, лісой, жыў у хлеўчыку адных гаспадароў, куды прыйшоў сам (!), ратуючыся ад штодзённай ды штоночнай небяспекі з боку драпежніка, бяскорміцы і халадоў... Сённа птушка адчувае сябе здавальняюча, амаль не дзічыцца людзей, што яе даглядаюць, і кожны дзень дзелавіта гуляе па вялікім станцыйным двары, радуючы і здзіўляючы выпадковых прахожых... Падчас свята госці з задавальненнем кармілі прыручанага птаха і нават давалі яму падарункі. Духмяны бохан хлеба для лебедзя ўручыла гаспадыні гасцініцы Наталлі Блізнюк самая маленькая сяброўка АПБ са Слонімшчыны – пяцігадовая Ксюша Мельнік. Цэлы мех такіх жа боханаў, прыўкрашаны каляровымі стужкамі, атрымаў лебедзь ад рэдакцыі раённай газеты «Слонімскі веснік». Шчыры дзякуй усім на птушынай мове!

Застаецца дадаць, што, як і іншыя мерапрыемствы гэтага тыдня, згаданае свята адбылося ў рамках Міжнароднага Тыдня птушак Birdlife International і каардынавалася ў Беларусі вышэйназванай грамадскай арганізацыяй «Ахова птушак Бацькаўшчыны». А гасцініца для птушак – першая на Гродзеншчыне і, магчыма, ва ўсёй краіне.

Высокага палёту, «Ластаўка»!

***Святлана ПРАКОФ'ЕВА, старшыня Слонімскага раённага аддзялення ГА «Ахова птушак Бацькаўшчыны»***

## Пажар – вынік неабачлівасці

***Наколькі небяспечны пажар – зразумела кожнаму. Месца ўзнікнення большасці з іх – жылыя дамы і кватэры. Прычынамі такіх пажараў часцей за ўсё становіцца няўважлівасць, нядбайнасць і абыякавасць саміх людзей.***

З надыходам цяпла расчыняюцца балконныя рамы аматараў свежага паветра і нікацінавай залежнасці. Чамусьці яны забываюць пра тое, што ад кінутай запалкі альбо непатушанай цыгарэты можа ўзнікнуць пажар у суседзяў на ніжнім паверсе! Часта дзеці, гуляючы, кідаюць з балконаў палаючыя самалёцікі, нават не падазраючы, што можа адбыцца, калі самалёцік, не даляцеўшы да зямлі, упадзе на балкон ніжняга паверха.

Але што гаварыць пра дзяцей, калі нават дарослыя не думаюць аб выніках. Пажар, які адбыўся 19.04.2006 года ў 2 гадзіны ночы на балконе кватэры № 32 па вул. Кахоўскай, 45 таму пацвярджэнне. Да гаспадара кватэры № 36 ноччу прыйшла знаёмая, і, каб не спускацца ўніз, ён кінуў ёй ключ ад уваходу ў пад'езд з балкона. Паколькі ў цемры было цяжка знайсці скінуты ключ, грамадзянін Р., каб асвятліць тэрыторыю, пачаў падпальваць газеты і кідаць уніз з балкона. І як вынік, палаючая газета ўпала на балкон кватэры № 32, дзе на падлозе ляжаў дыванок, які загарэўся. Далей полымя перакінулася на аздобленую пластыкам сцяну балкона. Пажар быў ліквідаваны падраздзяленнямі МНС, якіх выклікалі кватаранты, што жылі ў адным з пакояў кватэры № 36.

Каб не стаць ахвярай падобнага пажару, выконвайце правілы пажарнай бяспекі і не захоўвайце гаручыя матэрыялы на балконах.

*Тамара ДУБРОЎСКАЯ, старшы інспектар Цэнтральнага РАНС*

## Прадаўжальнікі традыцый



***Самадзейныя артысты муж і жонка Сяргей Страх і Валянціна Абібок удзельнічаюць ва ўсіх мерапрыемствах Жыткавіцкага раёна і Гомельскай вобласці.***

***Загадчыца Запясочанскага сельскага клуба В. Абібок грае на гармоніку, спявае, танцуе (пачынала ў народным ансамблі танца «Прыпяць»). Яе бацькі і дзеці – таксама людзі творчыя.***

***Музыка С. Страх – стваральнік і мастацкі кіраўнік аркестра, выдатны спявак.***

*Мікола КОТАЎ*

## *Кароткі слоўнік* краязнаўча-прававой тэрміналогіі *беларускай старажытнасці*



***(Пачатак у № 3 за 2005 г.)***

**ПІЎНІЧЫ** (раней падчашы) – службовец у ВКЛ, які загадваў вінным склепам у велікакняжацкім двары. Паступова тытул станавіўся ганаровым.

**ПОЗВА** – пісьмовы выклік у ВКЛ на суд, з чаго пачыналася кожнае судовае пасяджэнне. Яе складалі пісар ці зацікаўленая асоба і замацоўвалі дзяржаўнай пячаткай і подпісам пісара. У позве пазначаліся дата складання, прозвішчы зацікаўленых асоб, сутнасць справы і месца яе знаходжання. Калі позва афармлялася не па Статуце ВКЛ, то яна лічылася несапраўднай, і адзін з бакоў мог не з'яўляцца ў суд. Позва перадавалася вознаму, і ён уручаў яе асабіста. Калі ён не мог пабачыць асобу, якая клікалася на суд, то мог пакінуць яе пры сведках іншым. Позва ўручалася за чатыры дні перад судовым працэсам. Тэрмін мог як паменшвацца, так і пабольшвацца. Яўка ў суд па позве была абавязковай, іначай пагражаў штраф. Пры грамадзянскіх справах позва магла быць і вуснай.

**ПОЛАЦКАЕ ПРАВА** – сістэма норм звычаёвага права і пісанага феадальнага права, што дзейнічала ў Полацкай зямлі, а потым у гэтым ваяводстве (з 1504 г.) да канца XVIII ст. Пэўная аўтаномнасць яго захоўвалася з-за былых заслуг гэтага княства, што пацвярджалася адпаведнымі граматамі. Напрыклад, за 1338 г., калі склаўдаўся гандлёвы дагавор Гедзіміна з Лівонскім ордэнам. Па ім полацкі князь называўся нават каралём, што дазваляла яму дзейнічаць самастойна ў міжнародных праваадносінах (у 1478 г. палачане самі заключылі дагавор аб дружбе і гандлі з рыжанамі. Гэтак жа маглі паступіць і з Ноўгарадам, Псковам, «немцам» і інш.). Да першай паловы XVI ст. Полацк многія важныя пытанні гарадскога жыцця вырашаў на сваім сходзе – сойме, што падмацоўвала дадзенае яму ў 1499 г. магдэбургскае права і інш.

Полацкую зямлю выдзяляла наяўнасць мяшчанскага землеўладання. Мяшчане-землеўладальнікі мелі залежных сялян і павінны былі, як і шляхта, браць удзел у ратных справах ВКЛ. Сяляне-даннікі былі адносна вольныя людзі, халопы і рабы пазбаўляліся правоў, іх інтарэсы ў судзе абаранялі паны. Аўтаномнасць Полаччаны пацвярджалася яшчэ і тым, што без яе згоды не мог быць прызначаны яе ваявода, а грамадзян не маглі судзіць за межамі. Мела свае прывілеі і царква. Захоўвалі палачане прывілеі і ў гандлёвых справах (вызваленне ад пошлін у пэўных галінах і інш.). Пэўнымі маёмаснымі прывілеямі ў Полацкім ваяводстве карысталіся жанчыны. Менавіта па Полацкім праве за жыхарамі яго замацавалася назва «палачане». Нормы Полацкага права былі ў многім выкарыстаны пры падрыхтоўцы Статутаў ВКЛ 1529, 1566 і 1588 гадоў.

## *Паважаная рэдкалегія «Краязнаўчай газеты»!*

*Вялікі вам дзякуй за вашу плённую працу ў справе абуджэння самасвядомасці беларусаў як нацыі з глыбокімі каранямі і багатай самабытнай культурай. Крыху пра сябе. Я, Анатоль Верамей, нарадзіўся ў 1957 годзе ў вёсцы Гайна Лагойскага раёна. Пасля заканчэння дзесяцігодкі паступіў у Віцебскі дзяржаўны медыцынскі інстытут. Пасля перавёўся на ваенна-медыцынскі факультэт пры Куйбышаўскім медыцынскім інстытуце, які скончыў у 1981 годзе. Працаваў на розных пасадах вайсковага ўрача ў Грузіі, Чэхаславакіі, Беларусі. Дэмабілізаваўся ў 2001 годзе ў г. Мар'іна Горка, дзе зараз жыву і працягваю працаваць урачом у вайсковай часці ў якасці служачага.*

*Краязнаўствам цікавіўся з маленства. Любіў слухаць успаміны старых людзей пра мінулае, збіраў легенды, паданні пра свой родны кут, збіраў манеты, старыя рэчы, шукаў скарбы. І вось толькі пасля дэмабілізацыі, калі стала больш вольнага часу, раптам падумалася, наколькі тое, што я ведаю альбо калісьці чуў, адпавядае гістарычнай праўдзе. Вось з гэтага часу перачытаў усё, што толькі мог знайсці (безумоўна, на аматарскім узроўні) па гісторыі Беларусі, па крупінках збіраючы звесткі пра любую мне Лагойшчыну і родную вёску Гайну.*

*Вашым чытачом з'яўляюся ад першага нумара. Чытаючы вашу і нашу газету, мне заўсёды вельмі прыемна бачыць, з якой цеплынёй, любоўю і натхненнем расказваюць карэспандэнты – як у сталым узросце, так і яшчэ зусім юныя – пра свае родныя мясціны. Менавіта гэта і натхніла мяне даслаць вам ліст і матэрыял.*

*Вырашыў даслаць вам ліст пра сівую даўніну маёй вёскі. Быў бы вельмі ўдзячны, калі б мой ліст вас зацікавіў.*

*Адразу прашу прабачэння за мову, бо тое асяроддзе, у якім мы зараз жывём, на жаль, рэдка спрыяе нам размаўляць на мове нашых бацькоў і дзядоў.*

# Загадкі старажытнай Гайны

Гайна – старажытнае паселішча, мабыць, з XIV стагоддзя. У ваколіцах Гайны і да сённяшняга часу захаваліся так званыя балцкія курганы. На жаль, адзінкавыя. Раней было іх тут шмат. Адны з іх даследавалі, іншыя ўжо ў пасляваенныя гады разбуралі бульдозерам. Цяпер ад таго месца засталася толькі назва мясцовасці – Курганы. Яны плоскія, круглыя, да 1,5 м у вышыню, і каля 5 м у дыяметры. Верхняя частка складзена з камянёў, часам у некалькі радоў. У некаторых курганах былі пахаваны коні.

Пасяліўшыся сярод балтаў, славяне асімілявалі іх. Гэты працэс праходзіў мірна і працягваўся вельмі доўга, а паасобныя астраўкі іх пратрымаліся да новага часу і абеларусіліся вельмі позна. Адным з такіх астраўкоў і з'яўлялася Гайна. З цягам часу балцкая частка вёскі стала каталіцкай, а славянская заўсёды заставалася праваслаўнай. І цяпер, як і шмат стагоддзяў таму, рэчка падзяляе вёску на дзве роўныя часткі. Цікава, але сівая даўніна бачна тут і ў наш час. Тут здаўна жылі праваслаўныя і католікі. Гэта бачна нават у прозвішчах жыхароў. Вёска мае двое могілак, якія размешчаны па розныя берагі рэчкі. Спачатку на адных могілках хавалі праваслаўных славян, а на другіх – язычнікаў-балтаў. Потым, яшчэ гадоў 150 таму, – праваслаўных (уніятаў) і католікоў. Дзякуючы шматвяковым традыцыям, звычай хаваць памерлых менавіта на сваім баку і на сваіх могілках захаваўся і ў наш час.

У 1387 годзе Гайна (Айна) упершыню ўпамінаецца польскім гісторыкам-храністам Янам Длугашам з нагоды заснавання Ягайлам Віленскага біскупства. Лічыцца, што парафія касцёла, заснаванага Ягайлам у Гайне на месцы былога язычніцкага капішча, налічвала больш за 5 000 душ. Кароль надзяліў касцёл зямлёю, сялянамі, надаў фальварак побач з Гайнай у 6 валок. Каралева Ядвіга адарыла касцёл дарагім убранствам і срэбрам.



*Дукора, прысады да сядзібы Гарцінгаў*

Ёсць меркаванне, што Ян Длугаш мог памыліцца. Вось як пра гэта піша Мікола Ермаловіч: «...Рэч у тым, што масаваму хрышчэнню ва Усходняй Еўропе падвяргаліся толькі славянскія плямёны. А ў час масавага хрышчэння, якое пачалося ў канцы X ст., на Беларусі, пэўна ж, заставаліся астравы балцкага насельніцтва, на якое не пашыралася хрысціянства. Адным з іх і былі раёны Гайны і Абольцаў. Не выключана, што яны да канца XIV ст., акружаныя славянамі, у моўных адносінах былі ўжо асіміляваныя, але заставаліся язычнікамі і па ўмовах Крэўскай уніі павінны былі быць ахрышчаны ў каталіцтва, што і было здзейснена. Гэтым і тлумачыцца з'яўленне першых каталіцкіх храмаў на Беларусі ў Абольцах і Гайне. Цалкам магчыма, што гэта хрышчэнне адбылося таксама пры ўдзеле самога Ягайлы, паколькі ёсць звесткі, што ён у 1387 г. наведаў Полацк і Віцебск».

У 1392 г. Вітаўт Кейстутавіч пасля працяглай барацьбы дамогся, каб Ягайла перадаў яму ўладу ў ВКЛ. Верагодна, Вітаўт прызначыў у Лагожаск, Айну і Камень-Харэцкі намеснікаў, але непасрэдных звестак пра гэта няма. Пачынаючы з 1395 года, Вітаўт актыўна пачаў раздаваць асобныя маёнткі Лагожскага княства. Так з цягам часу ў непасрэдных уладаннях Вітаўта засталася толькі невялічкая частка Лагожскага княства з Лагожскам і Айнай. Гэтыя землі знаходзіліся ва ўладаннях князя Вітаўта амаль 40 гадоў, з 1392 па 1430 гг., і, мабыць, нешта значылі для вялікага князя. Можа, палюбіў ён іх з-за хараства прыроды, а можа з-за таго, што тут кампактна пражываў люд, блізкі па крыві і духу вялікаму князю. За гэтыя часы Вітаўт умацаваў Лагойскі замак і дзесьці пасля 1397 г., як лічыць большасць гісторыкаў, пабудаваў касцёл у Гайне (Айне). Вядома, што князь надаваў вялікую ўвагу касцёлу, ахвяруючы на яго вялікія сродкі.

Вось тут незразумела, куды дзеўся касцёл, заснаваны на 10 гадоў раней Ягайлам. Звестак няма, мы можам толькі разважаць. Хрышчэнне насельніцтва Ягайлам магло быць праведзена на месцы альбо ў памяшканні былога паганскага капішча. Касцёл па нейкіх прычынах мог застацца недабудаваным ці ўвогуле згарэць, што здаралася нярэдка. Паводле апісання Гайненскай парафіі А.М. Кулагіным, «касцёл Успення Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў вёсцы Гайна размяшчаўся на ўзвышаным беразе ракі Гайны. Першапачаткова быў драўляны. Заснаваны Ягайлам каля 1386 года. Вітаўт надаў касцёлу маёнтак Кацямі з 6 вёскамі, а Ягайла – фальварак побач з Гайнай у 6 валок». Дарэчы, Вітаўт мог толькі пацвердзіць прывілей Ягайлы, выдадзены касцёлу раней.

З самага юнацтва мяне цікавіла думка: як магло здарыцца, што пасля заснавання касцёла і правядзення хрышчэння ў Гайне палова вёскі засталася праваслаўнай. Відавочна і бясспрэчна адно: славянская палова вёскі ўжо даўно была праваслаўнай, і ні Ягайла, ні Вітаўт, хоць і ўводзілі каталіцтва як асноўную рэлігію ў ВКЛ, праваслаўных пераходзіць у каталіцтва не прымушалі.

У хуткім часе адбылася бітва пад Грунвальдам (15 ліпеня 1410 года). Вось як напісаў пра падзеі таго часу Ніл Гілевіч: «...Невыпадкова, што іменна тут, у набожлівай Гайне, у храме, за дзесяць гадоў перад тым збудаваным, спраўлялі імшу каралю і вялікаму князю ліцьвінскаму ў гонар яго ваякаў неадольных і іх перамогі, якою былі ўратаваны ад чорнай няволі і Віцебск, і Полацк, і Орша, і Крычаў, і Мсціслаў і многа яшчэ гарадоў і зямель і людзей крывічанскіх, падданых магутнай і знатнай у свеце дзяржавы – Вялікага Княства».

***Анатоль ВЕРАМЕЙ,***
***г. Мар'іна Горка***





# Песні натхнення

***Янка Купала! Дарагое імя ў сэрцы кожнага беларуса! Гучыць яно як найлепшая песня!***

Чытаеш купалаўскія творы, і хочацца іх спяваць. Колькі песень стварылі нашы кампазітары на словы Купалы! Нават многія з іх лічацца ўжо народнымі. Як, напрыклад, купалаўская «Восень». Яна цудоўна гучыць на народнай мелодыі... Змест гэтага верша – жыццё, думы, мары, боль сэрца, што былі затоены ў самых глыбокіх кутках душы паднявольнага, прыгнечанага, бяспраўнага мужыка-беларуса. І гэта напісана як бы крывёю сэрца народа, які потым, дзякуючы буйнаму, вольнаму віхру Вялікага Кастрычніка, стаў «чалавекам звацца» і раскрыў багатыя скарбы сваёй душы.

Успамінаюцца падарожжы з Янкам Купалам у Маскву, Тбілісі, сустрэчы на мітынгах, кангрэсах, а таксама ў грозныя дні Вялікай Айчыннай вайны...

Вось, разам са Стасем Навіцкім, захапіўшы цымбалы, прыйшлі да Купалы павіншаваць з днём нараджэння. Спявалі яму многа, а ён падказваў новыя і новыя песні... Папрасіў праспяваць «Восень».

Абапёршыся галавой на руку, сядзеў Янка, слухаў уважліва, не варушачыся, а слёзы каціліся па яго твары. Папрасіў праспяваць і другі раз... Вельмі ўзрушваў яго гэты спеў, бо надта жывы быў малюнак верша, у якім адбівалася ўсё жыццё дарэвалюцыйнай Беларусі, гаротнага «мужыка-беларуса»!

Неяк Янка Купала запрасіў мяне да сябе праслухаць ягоны пераклад шаўчэнкаўскай «Кацярыны» на беларускую мову. Слухаў, прасіў некаторыя месцы прачытаць яшчэ і яшчэ раз... Сядзеў задумёны, засяроджаны, сур'ёзны. Папрасіў, каб я прачытала яму «Кацярыну» на ўкраінскай мове, потым іншыя творы Тараса.

А на свяце ў Чарнечы, прысвечаным 125-годдзю з дня нараджэння Т. Шаўчэнкі, я выступала ад Беларусі і сваё выступленне эманціравала з паэмай «Тарасова доля». Добра слухалі ўкраінцы гэты твор.

А які жартаўлівы быў Купала, калі мы з ім і Якубам Коласам ездзілі разам у Маскву ці ў іншую рэспубліку на якое свята. Гэта былі цудоўныя падарожжы. Колькі было гумару, жартаў – заслухаешся, насмяешся разам з імі. І ўсё гэта лёгка, ненадумана, жартаўліва, па-брацку, як бывае сярод людзей душэўных, таленавітых, мудрых...

Сустрэчы ў 1942 годзе. Янка Купала засяроджаны, удумлівы, рашучы. Яму «сніліся сны аб Беларусі». Пра яе ён увесь час гаварыў, хацеў хутчэй яе ўбачыць, быў перакананы ў нашай перамозе.

Памятаю, як з брыгадай нашага опернага тэатра я ад'язджала да партызан, у тыл ворага, у Беларусь. Развітваючыся, Янка Купала сказаў:

– Доўга не затрымлівайся, я павінен табе нешта сказаць.

– Скажыце цяпер.

– Не, калі вернешся ў Маскву.

– Добра, праз тры-чатыры дні вярнуся...

Але на другі дзень ва Уладзіміры раніцою мне падалі тэлеграму, каб вярталася ў Маскву. На пахаванне Янкі Купалы...

Ехала з шафёрам. Не пакідалі думкі пра Купалу, пра тое, што яго ўжо няма сярод нас. Уздоўж дарогі відзеліся палі, сенажаці, лясы. На адным лузе ўсё было бялюткае ад рамонкаў. Спыніліся, шафёр набраў вады ў вядро, я назбірала кветак – цалютекае вядро. Іх у Маскве паклала ля труны Янкі Купалы...

*Ларыса* **АЛЕКСАНДРОЎСКАЯ**

*(З кнігі ўспамінаў «Такі ён быў»)*



***Мірнае гняздо***

*Фота Уладзіміра ПУЧЫНСКАГА*

## Наш каляндар

**265 гадоў ЖЫЛІБЕРУ Жану Эмануэлю (21.6.1741–1814)** – французскаму натуралісту, хірургу, доктару медыцыны (1763). Наладзіў і кіраваў Гродзенскай медыцынскай акадэміяй (1775–1881), заснаваў у Гродне акушэрскую і ветэрынарную школу, клінічны шпіталь (1775–1881), батанічны сад. У 1781–1883 гадах прафесар натуральнай гісторыі медыцынскага факультэта Галоўнай школы ВКЛ (пазней Віленскі універсітэт), заснаваў батанічны сад і ў Вільні. Аўтар шэрагу прац па флоры Беларусі, Літвы і Польшчы, па эпідэміялогіі эндэмічных хвароб у гэтых краінах.

## Даследуюць вучні



# Жукаў Барок у лёсе і творчасці пісьменнікаў

### З гісторыі вёскі Жукаў Барок

Гісторыя вёскі Жукаў Барок – гэта кропля гісторыі нашай Айчыны. Тут, пачынаючы ад каменнага веку, пакінута мноства слядоў мінулых часоў.

На аснове мясцовага матэрыялу можам прасачыць некаторыя старонкі гісторыі. Крэмневыя адшчэпы, скрабкі і іншы каменны інвентар можа прадставіць «жывы музей» на беразе ракі Нёман. Гэты ж музей дае магчымасць дакрануцца да сівых курганоў – магіл нашых продкаў-крывічоў.

Мясцовасць Жукава Барка і яго ваколіц знаходзіцца ў арэале «Летапіснай Літвы», дзе фармавалася Вялікае княства Літоўскае. Сучаснае паселішча з'явілася ў XVI стагоддзі. Паводле мясцовай легенды, заснавальнікам быў Жук. З 1575 года вёска Мірскага графства Навагрудскага ваяводства, належала Радзівілам. Водгук Паўночнай вайны назаўсёды застаўся на беразе Нёмана ў вобліку кургана-пахавання.

Жукаў Барок знаходзіўся на важным гандлёвым шляху з Мінска ў Мір. У XIX стагоддзі тут дзейнічала пераправа праз Нёман, знаходзіліся царква, лясніцтва, карчма, млын, склады для тавараў, кузня.

Вобліск паўстанняў 1831 і 1863–1864 гадоў данеслі да Жукава Барка паэт А. Плуг і сям'я Кшыжаноўскіх, якія сталі ахвярамі падаўлення паўстанняў. Жукаваборская зямля нарадзіла філосафа С. Маймана, які ўзбагаціў сусветную філасофскую скарбніцу. Гэтыя мясціны былі «літаратурнай скарбоўніцай», з якой выйшлі творы У. Сыракомлі і В. Каратынскага.

Памяць аб даўніх часах захоўвала і царква, закладзеная Радзівілам у 1720 годзе. Сёння царкву можна ўбачыць толькі на фотаздымках.

Пакінулі трагічны след у гісторыі вёскі і яе ваколіц сталінскія рэпрэсіі і Вялікая Айчынная вайна. Зараз у вёсцы жыве 73 чалавекі ў 48 дварах, ёсць бібліятэка, магазін. І сёння вёска славіцца прыгажосцю мясцін, зычлівасцю, працавітасцю людзей.



*Фрагмент малюнка Н. Орды*

### Краявід вёскі XIX стагоддзя вачыма пісьменніка і мастака

Маляўнічае апісанне Жукава Барка і яго ваколіц мы знаходзім у вядомых «Вандроўках па маіх былых ваколіцах» Уладзіслава Сыракомлі: «Пясчаным насыпам уязджаем у вёску Жукаў Барок. Працавіты люд праз стагоддзі ўрабіў гэтыя бязлюдныя пяскі: збажына навокал кусціцца буйней, чым ва ўсёй ваколіцы. Тутэйшыя людзі, сярэдняга росту, лагоднага, славянскага выразу твару, у чорных, з дамашняй воўны сярмягах, заклапочана снуюць па сваіх шнурах... Вёска балоцістая, бо ў нізіне, і хоць малая (у ёй можна налічыць ледзьве дзесяць хат), але, дзякуючы свайму гожаму месцу на беразе Нёмана, славіцца кузняй, млынам, царквою, плябаніяй, лясніцтвам, прасторнай карчмой і паромам на Нёмане».

Менавіта гэты прыгожы куток прываблівў вока і знакамітага мастака XIX стагоддзя Напалеона Орды. У час адной з вандровак па Беларусі ён і зрабіў замалёўку «Краявід вёскі». На ёй агульны выгляд ад Нёмана, з драўлянай царквой Апекі Прасвятой Дзевы Марыі, панскай сядзібай з каланнымі ганкам. На першым плане, верагодна, старажытнае паселішча. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку, надпіс: «Жукаў Барок 15 жніўня 1876 года. Тут праўдзіва дзіцячыя гады Антоній Пяткевіч (Адам Плуг – вядомы апавядальнік, які нарадзіўся ў Замосці)».

### Жукаў Барок – «гняздо» паэтаў, радзіма песень

Кастусь Цвірка ў кнізе дарожных нарысаў «Той курган векавечны...» называе Жукаў Барок «цэлым гняздом паэтаў, радзімай песень». Мусіць, якраз гэта меў на ўвазе і крытык Стасовіч, калі пісаў, што «з усіх родных зямель нашых найбольш багаты не толькі на мінеральныя крыніцы, але і на крыніцы самароднай паэзіі – край прынёманскі».



*Млын*

### «Белы агонь, або Жукаў Барок» – дыялог стагоддзяў Яўгена Хвалея

Наведаўшы ў пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя Жукаў Барок, прайшоўшы дарогамі знакамітых пісьменнікаў XIX стагоддзя, Яўген Хвалей напісаў «Белы агонь, або Жукаў Барок (дыялог стагоддзяў)». Яго вельмі ўразіла гісторыя Жукаваборскай царквы, якая ў пачатку 60-х гадоў па рашэнні раённага кіраўніцтва была разбурана, а царкоўныя кнігі, якіх там было вельмі многа, вывезлі і пазней спалілі. Калі мы спыталі ў пісьменніка, чаму так назваў свой твор, ён адказаў: «Стоячы на месцы былой царквы, мне ўяўлялася, як ідзе белы дым ад спаленых царкоўных кніг. Белы – значыць святы, чысты».

*Зямля, дзе Нёман заламаў луку,*
*Дзе бор і поле – як скрыжалі...*
*Паселішча, тваю чытаю памяць*
*На скрыжаваннях мечаных вякоў...*
*Стаю на камянях, што некалі*
*падмуркам былі,*
*падрубы спарханелі...*
*А постаці ідуць, ідуць, як волаты...*
*Страчайце іх, вякі...*

*Яўген* **СКОРБЕЖ**,
*вучань Аталезскай СШ Стаўбцоўскага раёна*

# Ян Чачот — трагедыя ці выбранасць лёсу?..

*(Да 210-годдзя з дня нараджэння)*

*Умацаванне добрых можа*
*Перамагчы любое ліха;*
*Супроць грамадскай думкі*
*Зброя і любая сіла – нішто.*

***Ян ЧАЧОТ***



Ян Чачот для большасці сённяшніх беларусаў вядомы як паэт-рамантык, куды менш як фалькларыст і краязнаўца, зусім малавядомы як публіцыст. Гэта, перадусім, трагедыя нашых пакаленняў. І прычына ў тым, што кожнае новае пакаленне ўсё больш і больш адрываецца ад роднай гісторыі. Але гаворка ідзе пра трагедыю, а разам з тым і абранасць лёсам Чачота.

Людзі творчыя, адданыя Радзіме вылучаюцца трагічнасцю сваіх лёсаў. Літаратурны даследчык С. Даніленка адзначаў: «Дзяржава-Радзіма ўяўляе для Чачота духоўную каштоўнасць, супаставімую з вышэйшымі каштоўнасцямі хрысціянства». А зазірнуўшы ў падручнік па гісторыі Беларусі, мы ўбачым, які гвалт чыніўся ў адносінах да свядомых беларусаў з боку царскіх уладаў. Як шэльмавалася беларуская мова і культура, як прыгнятаўся беларускі народ у цэлым. Да прыкладу, у 1832 годзе быў закрыты Віленскі універсітэт – адзіная вышэйшая навучальная ўстанова на тэрыторыі Беларусі і Літвы. А за 9 гадоў да гэтага, у 1823, расійскі імператар Аляксандр I забараніў жыхарам Беларусі і Літвы накіроўваць сваіх дзяцей на вучобу ў замежныя універсітэты. У 1836 годзе ва ўсіх навучальных установах Беларусі ўводзілася навучанне на рускай мове. І прыкладаў такіх шмат.

Ян Чачот, калі пачаў займацца беларускім фальклорам, тым самым вызначыў свой далейшы лёс на ўсё жыццё. А перадумовамі да гэтага паслужыла блізкасць да сялян, за вызваленне якіх ад прыгнёту ён выступаў. У сваім артыкуле «Думкі, якія павінен пашыраць вышэйшы клас» (1821) пісаў: «Ні асветаю краю, ні земляробствам не могуць больш хуткімі тэмпамі рухацца наперад, пакуль не будзе ліквідавана ганебная, замшэлая на працягу вякоў і аброслая забабонамі перашкода – няволя сялян, якая супярэчыць законам прыроды, цвярозаму розуму і нават чыстым эканамічным разлікам і выклікае сорам у сэрцах людзей...».

Ян Чачот «верыў у выхаваўчую сілу народных крыніц творчасці, якія трэба вывучыць мясцовай інтэлігенцыі і вярнуць таму ж самаму народу» (Г. Каханоўскі «Адчыніся, таямніца часу»). Ён «асноўную аснову ў духоўным развіцці чалавека лічыў яго далучэнне да вуснапаэтычнай творчасці народнай паэзіі – да невычэрпнай скарбніцы фальклору» (В. Жураўлёў «У пошуку духоўных ідэалаў»). Гэта, відаць, і ёсць галоўная Чачотава трагедыя. Ён быў занадта адданы сваёй працы. Не лічыўся з адметнасцямі часу. Ён цвёрда верыў, што нават адным толькі зваротам да крыніцы народнай творчасці можна абудзіць людзей да таго, каб нешта змяніць. Не сакрэт, што інтэлігенцыя, на якую так спадзяваўся фалькларыст, была нешматлікай. Ды і ўладамі ўсе памкненні інтэлігенцыі да новага абрываліся. Так, у 1823 годзе 11 філаматаў і 9 філарэтаў з тайнага таварыства Віленскай прагрэсіўнай моладзі, якую ўзначальвалі Тамаш Зан, Ян Чачот (спачатку трапіў у Кізіл, пасля яго перавялі ва Уфу, а затым – у Цвер) і Адам Міцкевіч, былі высланы на Урал.

Але праз сваю трагедыю Ян Чачот паўстае перад намі абраннікам лёсу. Ці шмат вядома фалькларыстаў такога маштабу ў 1-й палове XIX стагоддзя? Тут можна назваць акрамя Чачота яшчэ хіба што Зарыяна Даленгу-Хадакоўскага. Не зламала фалькларыста і высылка, з якой ён вярнуўся ў 1833 годзе. На працягу 9 гадоў (1837–1846) збірае, а потым у шасці кнігах выдае беларускія народныя песні «З-пад Нёмана і Дзвіны», а таксама іншыя творы фальклорнага жанру. Публікуе іх спачатку, праўда, у перакладзе на польскую мову, а потым толькі ў арыгінале – па-беларуску. На што К. Цвірка адзначыў: «Гэта быў сапраўдны подзвіг фалькларыста».

Абранасць Чачота і ў тым, што ён «сваім краёвым патрыятызмам уплываў і на іншых філарэтаў і філаматаў, у прыватнасці, на Адама Міцкевіча» (Г. Каханоўскі «Адчыніся, таямніца часу»). А Міцкевіч, у сваю чаргу, разам з Ю. Крашэўскім і Ул. Сыракомлем паўплывалі на Чачотаву літаратурную творчасць. Але гэта ўжо іншая гісторыя.

***Сяргей МАКАРЭВІЧ,***
***студэнт журфака БДУ***

***Даўно ўжо вядома: толькі азірнуўшыся ў мінулае, можна зразумець будучае сваёй Радзімы. Народ, які забыў сваю гісторыю, становіцца бездапаможным. Таму ўсіх тых, хто жадае ведаць карані свайго народа, сваёй нацыі не можа не цікавіць гістарычнае мінулае Заслаўя. Яго помнікі духоўнай і матэрыяльнай культуры дапамагаюць ўявіць жыццё нашых продкаў ва ўсёй яе самабытнасці. Трапна заўважыў Вітаўт Чаропка ў сваім артыкуле «Заслаўе: старажытны горад з вялікай гісторыяй», кажучы пра месца гэтага горада ў нашым мінулым: «Кожны горад мае сваю гісторыю, але не кожны трапляе ў гісторыю, калі ён яшчэ і невялікі».***

# Экамузей у Заслаўі

Заслаўе – адзін з самых старажытных гарадоў Беларусі. Ён быў заснаваны ў 983 годзе Уладзімірам Святаславічам і пазней перададзены яго сыну Ізяславу, куды той быў сасланы разам са сваёй маці Рагнедай. Тут да нашых дзён захавалася гарадзішча «Замэчак», пабудаванае у X стагоддзі., курганныя могільнікі X–XI стст., гарадзішча «Вал» XVI ст., Кальвінікскі збор канца XVI – пачатку XVII ст. (зараз Спаса-Праабражэнская царква), касцёл Святой Дзевы Марыі канца XVIII ст., рэшткі дварцова-палацавага комплексу, які належыў Пшаздецкім у XVIII–XIX стст. і планіровачная структура вуліц характэрная для сярэднявяковых гарадоў.



*У заслаўскім млыне*



*Кузня канца XIX стагоддзя*

Усе гэтыя помнікі ўваходзяць у Гісторыка-культурны музей-запаведнік «Заслаўе», які быў заснаваны ў 1986 годзе на базе Гісторыка-археалагічнага запаведніка. Ініцыятарам яго стварэння стаў кандыдат гістарычных навук, старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэта ICOM, адзін з арганізатараў руху за новую музеялогію у Беларусі – А.М. Каўбаска. Ён стаў ключавой фігурай у заснаванні і развіцці ГКМЗ «Заслаўе» (Гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Заслаўе»).

Музей-запаведнік стваравася пад уплывам новых міжнародных ідэй музеялогіі, звязаных з пошукам аднаўлення і дэмакратызацыі музеяў, пераасэнсаванні іх ролі ў сучасным грамадстве. Ідэолагам гэтага руху на Беларусі стаў менавіта А.М. Каўбаска. Асноўнай ідэяй новай музеялогіі з'яўляецца новы тып музея – экамузей. Вызначэнне тэрміна экамузей было дадзена французскім музеёлагам Ж.А. Рыўерам, пазней уведзена ў сусветны навуковы зварот. За аснову экамузея ў Заслаўе была ўзята скандынаўская мадэль музея пад адкрытым небам, але з адным адрозненнем – забудовы-помнікі заставаліся ў сваім арыгінальным асяроддзі без перамяшчэння ў спецыяльна адведзенае месца.

**У склад ГКМЗ «Заслаўе» уваходзяць:**

*1) музейна-выставачны комплекс па адрэсе вул. Рынкавая, 4; тут месцяцца дзве сталыя экспазіцыі («Габеленавая зала», «Музыка вякоў») і адна часовая;*

*2) этнаграфічны комплекс: «Млын», які складаецца з трох музеяў: «Паравы млын», «Хата завознікаў», «Клецъ». Назва другога этнаграфічнага комплекса – «Сядзіба каваля», які складаецца з музея «Кузня»;*

*3) музеефікаваны ДАК (доўгатэрміновая агнявая кропка);*

*4) дзіцячы музей міфалогіі і лесу;*

*5) адміністрацыйны будынак;*

*6) фондасховішча.*

У 1990 годзе па ініцыятыве супрацоўніцы запаведніка В. У. Міронічык з'явіўся сектар, а пазней аддзел музейнай педагогікі. Разам з В.А. Залуцкай яны распрацавалі цыкл заняткаў у дапамогу настаўнікам і вучням пры вывучэнні курса «Мая Радзіма – Беларусь». Для дзяцей малодшага і сярэдняга ўзросту праводзяцца экскурсіі круглы год іх асновай з'яўляецца святочны каляндар – «Вясёлыя Каляды», «Шырокая Масленіца», «Валачобнікі», а таксама найбольш цікавыя праявы быта і культуры беларускага народа. Распрацавана некалькі цыклаў музейна-педагагічных заняткаў: «Як пайду гуляць», «Знаёмства з музеем», «Мір музея», «Як людзі жылі раней» і іншыя. У гульнёвай форме дзеці знаёмяцца з музейнымі прадметамі, тэрмінамі, фальклорнымі традыцыямі.

Да святкавання 60-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне ў запаведніку быў адчынены музей ДАК, які выкарыстоўваецца як дапаможнік да спецкурсе «Вялікая Айчынная вайна».

Дзіцячы музей міфалогіі і лесу прадстаўлены двума сектарамі. Першы – міфалагічны лес, разлічаны на дзіцячыя групы. Другі – рэальны лес, экспазіцыя якога адлюстроўвае фауну і флору лясоў Беларусі, што дазваляе на базе запаведніка праводзіць урокі біялогіі і гісторыі.

У 1991 годзе сумесна са спецыялістамі Вылічальнага цэнтра Мінскага радыётэхнічнага інстытута (назва на той час, зараз БДУІР) была распрацавана праграма «Камп'ютэрызацыі фондаў», а 1992 годзе галоўны захавальнік фондаў ГКМЗ «Заслаўе» Рак А.К. разам з супрацоўнікамі музея распрацаваў праграму «Пошукавай сістэмы навуковага архіва», што дазволіла выкарыстоўваць аўтаматызаваны метад апрацоўкі экспанатаў фондаў і ўліку прадметаў даўніны.

У 2003 годзе ГКМЗ «Заслаўе» стварыў свой сайт у Internet, на якім можна знайсці неабходную інфармацыю для жадаючых наведаць запаведнік (паштовы адрас, факс, тэлефон для даведак, час працы, пералік дзеючых выстаў і экспазіцый, рэкламу новых выстаў і калекцый, анансаванне выстаў, якія рыхтуюцца да паказу). У перспектыве прадугледжваецца магчымасць праз Internet віртуальных панарамных «прагулак» па музеі-запаведніку. Плануецца размясціць на сайце інфармацыю, якая датычыцца гісторыі запаведніка, фотаздымкі рэдкіх экспанатаў з фондаў і інш.

Усё гэта сведчыць, што супрацоўнікі запаведніка не спыняюцца на дасягнутым і што, нягледзячы на цяжкасці, запаведнік ідзе ў ногу з развіццём сучаснай тэхнікі і тэхналогій. Нездарма па наватарстве ГКМЗ «Заслаўе» займае адно з вядучых месц сярод аналагічных устаноў Рэспублікі Беларусь. Ёсць і міжнародны поспех – у 1999 годзе ў Маскве на міжнародным фестывалі «Інтэрмузей» сярод 170 музеяў з Францыі, Расіі, Украіны і інш. краін прывезеная з Заслаўя выстава маляваных дываноў Алены Кіш была адзначана двума дыпломамі. З вялікім поспехам у 2003 годзе у Маскве прайшла выстава «Зямля і космас Язэпа Драздовіча».

ГКМЗ «Заслаўе» супрацоўнічае з турыстычнымі фірмамі і рэспубліканскімі арганізацыямі, прымае гасцей з блізкага і далёкага замежжа.

***Напрыканцы хочацца сказаць вялікі дзякуй усім супрацоўнікам музея-запаведніка за нялёгкую працу і адданасць ёй. Бо менавіта гэтыя людзі робяць для ўсіх нас і нашых нашчадкаў вялікую высакародную справу захавання нашай спадчыны, без ведання якой не можа быць будучыні ў нашага народа.***

***Валянціна УЛАСАВА,***
*г. Асіповічы*



№ 18 (131), май 2006 года

***Талька, паводле «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы», – гэта маток пражы або нітак рознай велічыні. Не ведаем, як стасуецца «талька» з назвай нашай вёскі, але ўсё ж паспрабуем вылучыць з тутэйшага матка пражы жывую нітку гісторыі.***

# Талькаўшчына
## Пошук гістарычнай ніткі

### Версіі паходжання

Калі верыць «Кароткаму тапанімічнаму слоўніку Беларусі», вёска Талькаўшчына мае назву-характарыстыку: гэтым словам абазначаюцца вадатокі, крыніцы, рэчкі, якія не замярзаюць ці позна замярзаюць, а таксама месцы, якія рана адтайваюць, месцы талых грунтоў і г.д. Адсюль і назва вёскі, якая знаходзіцца на беразе Шчары.

Але ёсць і іншая, «мясцовая» версія паходжання назвы. Справа ў тым, што ў «Актах слонімскага суда» даволі часта ўзгадваюцца зямяне Талькі. Гэта былі дробныя шляхціцы, якія мелі маёнткі ў Слонімскім павеце, вялі бясконцыя спрэчкі з суседзямі ў судзе з-за межаў сваіх маёнткаў, з-за рабавання маёмасці і г.д. Дык вось, існуе меркаванне, што некалі Талькі былі ўладальнікамі Талькаўшчыны і далі ёй назву ад свайго прозвішча, але гэта пакуль не пацверджана дакументальна.

### Тры гары

Першыя хаты ў Талькаўшчыне з'явіліся на месцы яе сучаснага цэнтра, дзе зараз стаіць праваслаўны крыж. Ад крыжа дарога вяла да лесу, да Паклоннай, Лысай і Куроўскай гор. Самая блізкая да Слоніма – Паклонная гара, але самая вялікая і цікавая – Куроўская. Менавіта на Куроўскай гары некалі месцілася ўмацаванае валамі гарадзішча VI–IX стст.

### Незабытоўскія

З вёскай Талькаўшчына непарыўна звязана гісторыя вядомага на Беларусі роду Незабытоўскіх герба «Любіч». Гэты род вядзе сваё паходжанне з XVI ст., але ў Слонімскім павеце яго прадстаўнікі з'явіліся толькі ў пачатку XIX ст. Апроч Талькаўшчыны, Незабытоўскія мелі маёнткі ў Сваротве (зараз Баранавіцкі раён) і Горцы (зараз Дзятлаўскі раён).

Вядома, што ў першай чвэрці XIX ст. Адольф Незабытоўскі пабудаваў у Талькаўшчыне даволі прыгожую рэзідэнцыю са шматлікімі гаспадарчымі пабудовамі. Але да нашага часу нічога з пабудаванага Незабытоўскімі не захавалася, апроч невялікага цаглянага склепу на мясцовых могілках. На ім шыльдзе ёсць надпіс: «PAMIATCE NIEODZALOWANEY ZONY SOFRONIJ Z GINETTOW NIEZABYTOWSKIEY. ZMARLEY ROKU 1838, SIERPNIA DNIA 23. POSWIECA PRZYWIAZANY MAZ».

### Царква на могілках

Незабытоўскія былі каталікамі, але і да праваслаўнага насельніцтва ставіліся, як сапраўдныя хрысціяне. На іх сродкі ў сярэдзіне XIX ст. на вясковых могілках была пабудавана невялікая драўляная царква. Праваслаўны святар прыязджаў сюды з горада ў выхадныя і святочныя дні. Кажуць, што пры Польшчы брацць шлюб, хрысціць ці адпяваць у гэтую царкву ездзілі нават са Слоніма. Але без рэгулярнага бягучага рамонту храм паступова разбураўся – прастаяў ён да 30-х гг. XX ст. і разваліўся сам сабою.

### Скібінскі

Пасля паўстання 1863 года ўладальнікам маёнтка ў Талькаўшчыне стаў пан Скібінскі. Ён часткова аднавіў палац Незабытоўскіх, карыстаўся драўлянымі гаспадарчымі пабудовамі і вялікім свірнам. Побач з сядзібай знаходзіўся вялікі сад; старажылы распавядаюць, што яблыні з таго саду давалі ўраджай да самых апошніх часоў. Мелася і сажалка, дзе разводзілі рыбу. А дарога ад маёнтка, што ішла на Лабазоўку (зараз у межах Слоніма), уся была абсаджаная грушамі, яблынямі ды слівамі і выходзіла ля горада там, дзе зараз знаходзіцца аўтастанка.



На жаль, у 1911 годзе палац згарэў. На полі каля Паклоннай гары вяскоўцы і дагэтуль знаходзяць каляровую кафлю ад панскіх комінаў, рэшткі цэглы і вялізныя камяні ад падмурку колішняй сядзібы. Некаторыя кажуць, што гаспадарчыя будынкі былі ўжо старыя, прадаць іх было цяжка, і таму Скібінскі наўмысна запаліў палац, каб атрымаць страхоўку. Грошы за страхаванне былі вялікія, а час – нестабільны. Атрымаўшы страхоўку, Скібінскі распрадаў сваю зямлю і з'ехаў у Еўропу.





### Успаміны

Ефрасіння Аляксандраўна Чаркес, пенсіянерка, былая настаўніца:

– Мне ўжо болей за 70 гадоў, і я добра памятаю, што пры Польшчы ў нас у Талькаўшчыне хутароў не было, а былі палоскі (шнуры). Як стаяць дамы ў вёсцы – у такім жа парадку выдзяляліся палоскі. Ад вёскі да лесу гэтыя надзелы мяняліся тройчы. У нашай сям'і такіх палосак было тры. Сеялі жыта, грэчку, лубін. Шырыня палоскі раўнялася 3,7 м. Той, хто меў каля 6 га зямлі, лічыўся серадняком, а бедныкі мелі ўсяго па 1–2 га зямлі. Мой дзядуля Канстанцін Іванавіч Марчык быў багаты. Уласнай зямлі ў яго мелася 20 га, з якіх 3 га – пад лесам, 3 га – пад сенакосам, і астатняе – пад ворывам. У дзядулі было звычайна 4–5 кароў і некалькі коней, у бацькі ўжо трохі меней. У беднякоў жа кароў не было зусім. Памятаю, дзед быў добрым гаспадаром. Ён меў 6 сыноў, і мой бацька быў старэйшы з іх, але дзед не даў яму зямлі таму, што маці атрымала добры надзел у якасці пасагу (падараваў дзядзька). Яшчэ адзін брат майго бацькі таксама быў жанаты і таксама меў гаспадарку. Так што дзед падзяліў сваю 20 га паміж 4 сынамі. Атрымалася не так ужо і шмат, усяго па 5 га на брата...

Мой дзед падчас акупацыі ў 1941–1942 гг. быў старастам Талькаўшчыны. Дзякуючы яму за гэты час ніводнага аднавяскоўца не пасадзілі, не забілі, не вывезлі ў Германію. Дзед пастаянна даваў хабар нейкім нямецкім чыноўнікам, і тыя рабілі так, каб Талькаўшчыну не чапалі.

У канцы 1942 года, калі дзед пераехаў у Слонім, паўнамоцтвы старасты выконвалі адразу некалькі чалавек. Аднаго з іх звалі Арцём Філіпчык. Да вайны ён быў старшынёй калгаса, а калі прыйшлі немцы, хаваўся па лясах. Аднойчы дзед паслаў маю маці да Філіпчыкаў і сказаў: «Ідзі да Арцёміхі ды скажы, каб Арцём вяртаўся дамоў. Яго ніхто не пакрыўдзіць. А калі будзе хавацца далей, то потым цяжэй будзе вярнуцца». Арцём вярнуўся ў вёску, і яго сапраўды ніхто не крануў.

Ужо пазней, пасля гэтых падзей, адна талькаўская жанчына сказала мне: «Я твайго дзеда праклінаю, таму што ён загадаў нам здаць немцам апошняга кабана. А нам самім не было чаго есці. Чаму ён сам не здаваў?» Яна проста не ведала, што сам дзед здаваў заўсёды болей, чым патрэбна было. Калі б ён не здаваў гэтыя падаткі, наўрад ці немцы так лаяльна ставіліся б да вёскі. Паказальна, што калі дзед ужо не быў старастам, у 1943 годзе немцы забралі некалькіх жыхароў у Германію. Напрыклад, бацьку і дачку Адама і Алену Булаўчыкаў, брата і сястру Талерчыкаў. Усе яны вярнуліся, акрамя Адама... Пасля вайны ўсім старастам давалі па 25 гадоў... А майго дзядулю не пасадзілі. Гэта, напэўна, быў той рэдкі выпадак, калі староста не падтрымліваў сувязі з партызанамі, і яго хату не спалілі і не пакаралі пасля вайны.

*Святлана і Ігар ПРАКОФ'ЕВЫ.*
*Фота аўтараў*

---

***Іван Капыловіч нарадзіўся на пачатку 1944 г. на Мазыршчыне. Маці – настаўніца; бацька – калгасны шафёр, партызан, пасля вызвалення ад фашысцкай акупацыі быў прыкліканы ў армію і загінуў у Памераніі.***

***І. Капыловіч у 1962 г. паступіў на аддзяленне журфака БДУ, з 1964 па 1966-ы праходзіў вайсковую службу. Пасля, скончыўшы вучобу, пачаў працу ў "Чырвонай змене". У канцы 1969-га, выконваючы рэдакцыйнае заданне, патрапіў у аўтамабільную катастрофу і стаў інвалідам І групы.***

***Маючы мужны характар і літаратурныя здольнасці, малады чалавек не здаецца перад жыццёвымі цяжкасцямі, працягвае журналісцкую працу і далучаецца да літаратурнай творчасці. Напісаў шэраг кніг прозы («Сонца садзіцца ў травы», 1978; «Два дні ў лютым», 1981; «Асенні гром», 1985; «Сны не вяртаюцца», 1988; «Імянны гадзіннік», 1991 і інш.), дзе цёпла пісаў пра родны палескі край і яго люд, вылучаў вострыя пытанні надзённага жыцця з турботай пра гуманізм і духоўнасць, пра вялікую вартнасць сям'і, спачування і дапамогі чалавеку, які патрапіў у бяду.***

***І. Капыловіч піша і вершы. З новымі з іх знаёмім нашых чытачоў.***



**Іван КАПЫЛОВІЧ**

* * *

*Забыць хачу расчараванні,*
*Калі вяртаюся ў сяло –*
*Не знаю, што сюды вяло,*
*Хачу што я ад стрэч-спатканняў.*

*З туманам родным паплавоў,*
*Паднебным крыкам жураўліным,*
*З сабою радасна-шчаслівым –*
*Сябе я тут шукаў-знайшоў.*

*Я тут стаяў на панадворку,*
*Глядзеў у розныя бакі*
*І на душы настрой такі,*
*Што я ўздыхаю горка-горка.*

*Я страціў, знаю, незваротна*
*Усё, што блізка мне кругом:*
*Вось гэты двор і гэты дом*
*Яны, як я, цяпер гаротны.*

*Кругом тут сум і адзіноцтва,*
*Што дарагія, блізкі мне,*
*Яны вярэдзяць душу ў сне*
*Сваім бязрадасным прароцтвам.*

*І ўсё ж знайду супакаенне*
*Сваёй утомленай душы:*
*Я нарадзіўся тут і жыў,*
*Спазнаў шчаслівыя імгненні.*

* * *

*Лісткі майго календара*
*Рукою часу адарваны,*
*Я са свайго пайшоў двара*
*У свет непрадказаны.*

*Дарогу выбіраў мне лёс,*
*І неба пасылала дні,*
*Не ў цішыні-раскошы рос –*
*Тужыў я век па дабрыні.*

*Не забываў я сваю маці –*
*Яна са мною кожны міг,*
*Жыццёвыя адолеў гаці,*
*А сэнс жыцця мо й не спасціг.*

*Жыццё мяне паўсюль вадзіла,*
*Не шкадавала, берагло,*
*Не ўсюд знаў дзённае свяціла –*
*Трапляў, бывала, і ў сіло.*

*Мой каляндар яшчэ не скончан,*
*Лісткоў даволі яшчэ ў ім,*
*Укос травы другі не скошан –*
*Яшчэ дням доўжыцца маім!*



# Сярод поля, сярод лесу

### Апавяданне-імправізацыя

***Генрых ДАЛІДОВІЧ***

## Вясна

Генікаў дзед, Уладзіслаў Дойлід, услед за сваімі прадзедамі жыў у вёсцы, у Янкавінах, дзе за Радзівіламі, на ўскрайку, у Глінішчы, капалі гліну і была майстэрня для шклозаводзіка ў суседніх Налібаках. Янкавіны з незапомных часоў аселі на выкарчаваным і выпаленым вялікім прагале паміж лесу Налібацкай пушчы, затым, «пры паляках» (пасля 1921 года) іхнюю адзіную досыць працяглую, больш за вярсту, вуліцу забрукавалі, каб абладзіць больш чым за шэсцьдзесят вёрст гасцінец з Кляцішча, пушчанскай глыбіні, у Стоўбцы, да чыгункі. А па ёй быў праезд у царскую і савецкую Маскву, потым у «буржуазна-польскую», затым «народную» Варшаву.

Калі пасля першай сусветнай, грамадзянскай і савецка-польскай войнаў, урэшце за Рыжскім мірам ды вяртаннем з бежанства з расійскіх глыбінь той Уладзіслаў ажаніўся, адлучыўся ад бацькоў і з маладой жонкаю пры такой-сякой падрукоўцы польскіх улад перабраўся на хутар Амшарок. Недалёка ад вёскі, за вярсты дзве (а польскія ўлады спрыялі аддзяліцца таму, каб «шчаслівец» высільваўся, абрабляў сваім потам паслялесавае поле, каб ужо абробленае перадаць асаднікам – найперш тым прыезджым з Польшчы, хто дабіўся «цуду на Вісле»: «адбіў савецкі наступ на Варшаву і Еўропу, каб у той учыніць «сусветную рэвалюцыю» і іх абальшавічыць»).

Першую сусветную вайну царскія войскі янкавінскі люд пагналі ўглыб Расіі, у другую, у блакаду ў жніўні 1943-га, немцы і дапаможныя ім славяне з суседніх да Беларусі краёў вёску і хутары папалілі, учыніўшы «санітарную зону» для партызан, што, як тады казалі, атабарыліся ў пушчы.

Пазней, калі фронт пакаціўся на Захад і гэтыя мясціны на нейкі час сталі безуладныя, вольныя, Генікаў бацька-бежанец першы вярнуўся дамоў з маладзенькай жонкаю, але сумеўся сяліцца на дзедаўшчыне – на папялішчы ў пустэльнай, адзічэлай, па начах нават прывіднай вёсцы, падаўся, як раней і ягоныя бацькі, на хутар, у Амшарок. Там зладзіў зямлянку – выкапаў яміну, абклаў яе падвалінамі, абставіў жэрдкамі, абкрыў іх галлём, кавалкамі з цёмназямлістага дзірвана. З ацалелай цэглы былой печы зляпіў грубачку з плітой, змайстраваў з плашак стол, ляжак, на ім матрац з сенам – вось першы іхні, Дойлідаўскі, хутарански «палац», што спрыяў выцерпець гора, выжыць і па-свойму непаўторна цешыцца маладосцю. У тым «хутарскім хораме» і нарадзіўся Генік – першае дзіця ў адроджаных яго бацькамі Янкавінах і іхніх хутарах. Ягоныя дзве сястры і два браты пабачылі свет ужо не ў землякопцы, а ў цывілізацыі – побач, у хатцы (пад адной саламянай страхой з хлевам, гумном і дрывотняй), а самая малодшая сястрычка – ужо зусім сучасна-культурная, нарадзілася ў вёсцы, пры электрычнасці). Зямлянка, калі пакінулі яе, доўгі час заставалася як склеп-спрат, пакуль не абсунулася сама па сабе. Урэшце яе, каб не пáдалі туды і не калечыліся дзеці, зраўняў з зямлёй бацька, зусім па-сялянску не падумаўшы, што для кагосьці і чагосьці тут, на хутары, мог бы пасля быць музейны куточак. Дык, выходзіць, тая зямлянка і не была. Засталася толькі ў Генікавай паўсвядомай дзіцячай памяці. Больш – у сталых снах, якіх не заўсёды зразумееш і ад якіх, бывае, часамі вельмі цяжка – як ад памяці, што ты аднекуль з цяжкога выблытаўся і ўцалеў... Тая зямлянка з усіх Дойлідавых дзяцей засталася ў памяці, можа, найперш, Геніка-першынца. Малодшыя яе, тое паўдраўлянае, паўземлевае адмысловае жытло амаль не помняць. Так што і Генік – хутаранец-бывалец, «дзікун» Налібацкай пушчы.» Так, ён – сын Яе Вялікасці Налібацкай Пушчы, але спазнаў у ёй не шмат чаго.

Цяжка сказаць, калі Генік пачаў пазнаваць, усведамляць свой той, на думку і старэйшых, звычайны, адлучаны ад свету і сумнаваты, а пазней благаславёны ім жа хутар. Спачатку ён толькі бачыў і чуў, як усё ўспрыймае кожная жывая істота, убіраў у сябе, як тая ж зямля ўбірае начную цёмнасць, расістасць, сусвітанак, сонечнае святло, вецер, дождж, снег, каб жыць і пладаносіць альбо, наадварот, пуставаць. Затым неяк нечакана, а на самай справе – непазбежна незвычайна свядомае адкрыццё: у адзін зімова-вясенні час вільгатнее вецер, выпадаюць туманныя ночы, настае адліга – цёпла дзень-другі, сселы снег ідзе на звод – спачатку слёзіцца, на прыгрэўку знікае, сцякае пад старую снежную коўдру, вадзіца збіраецца і точыць сабе ручаіначку. Чаму і як – гэта яе адзін сакрэт! Выбіваецца, змагаецца за свой жыццёдайны рух! І гэтага не спасцігнуць нікому і ніколі... І не толькі ў снежным свеце, але і ў іншым – па сваіх законах у лясных, пясчаных, спякотных мясцінах...

Зямля яшчэ не адталая, вада без яе сокаў, але ўсё роўна настойваецца водарны пах; у вадзе, што здолела выбіцца наверх, весела купаюцца чарнаватыя (любілі зімою грэцца ў цёплым коміне, дык абпэцкаліся сажаю) вераб'і. Яе, гэтую ваду, з задавальненнем першы п'е певень ды кліча асвяжыць горла і курэй. Па тым, калі ганаркі курыны цар апусціць сваю свяшчэнную дзюбу ў вясновую вільгаць, многае значыла: калі ён рана нап'ецца вадзіцы, то і рана вол ускубе, наесца травіцы. Першыя вясновыя сакавітыя травінкі – паратунак для жывёлы, а з яе выжываннем, моцаю – ужо не надзея, а мажлівасць акрыяць і селяніну...

Яшчэ праз некалькі дзён поле абапал Амшарка стракацее: вакол чэзлы снег, а сярод яго, на ўзвышках, праталіны. У такія часіны, блізка каля Звеставання (Дабравешчання), бывала па-рознаму: здаралася, першыя з далёкіх, як старыя людзі казалі, з цёплых турэцкіх берагоў прылятали сюды пажыць, вывесці дзетак буслы, а то і нечакана, калі вясна зацягвалася і змрочыла больш, чым зімой, праніклівым холадам, злятали з непрытульнага краю. Ды не, мабыць, зусім нечакана і самымі першымі заяўляліся жаўранкі. Адзін з іх, ледзь бачна хвалюючыся крыльцамі, адзінока нізка вісеў над праталінамі і... не тужлівіў, а ўзбуджана спяваў!.. «Абспеўвае поле!» – радасна казала маці, што тады Геніку было зусім не зразумела, што такое – «абспеўваць поле?» Ён толькі пазней зразумее, што ў словах малаадукаванай маці – розум Сялянскай Энцыклапедыі... Вось, да слова, яна казала такое: да не адспяванага жаўронкамі поля нельга было чапаць зямлю, бо «яна пры родах». Як і нельга было ў рукі браць насенне: на тое прыйдзе свой час. Альбо: «Ой, якое маладое неба!» Гэта –яшчэ зімой, калі яно пачынае хораша выблакітнівацца і напаўняцца лёгкімі вандроўнымі аблачынкамі. Адкрытая зямля, першая зелянота вельмі цешылі: за асабліва белую на хутары зіму засумоўвалі вочы па яркасці.

А яшчэ праз колькі туманіста-парнаватых начэй – ужо не ручаінкі, што цяклі з пагорачкаў уніз, а ў лагчынах на полі там і там вока вады, а на самым нізкім сярод ворыўнай зямлі поплаве, на старым, яшчэ асеннім лёдзе, – возера. Па ім, куды з розных бакоў збеглася вада-таліца, пры ветры нават адна за адной бягуць хвалі, і для палевіка-лесавіка Геніка – гэта дзівоснае мора (адзін з яго сваякоў жыў «за морам»). Не адзін і не два разы Генік з хутарскімі сябрамі спрабаваў па ім паплаваць (якое гэта вялікае жаданне для вясковага хлопчыка – пакатацца па вадзе і ўзляцець у неба!) Плавалі ў начоўках – дык не адзін раз і перакульваўся з іх у сцюдзёную ваду, за што строга ўшчувала нават маці (яна ніколі на іх, дзяцей, не падымала рукі, самае вялікае магла толькі хлістануць ручніком). Бярог Бог. Не прастуджаўся, хоць іншыя хваробы прычэпліваліся часта.

Ажыўлены бацька – рослы, з кучмай не зусім паслухмяных грэбеню русява-рыжаватых валасоў (яны, сыны, удаліся ў чарнявую маці), негаваркі, звыклы думаць-разважаць сам-насам і слухаць іншых – у адзін дзень пакідае работу ў кузні, і яны ладуюць новую шпакоўню. Якая радасць там, дзе бацька пазначыць вугалем ці крэйдай, пілаваць нажоўкай, хоць яна не слухаецца, скача ці рэжа крыва, а пасля забіваць цвікі ў дошчачкі малаточкам, што таксама непаслухмяны – то цвік гне, то па руцэ, якой трымаеш цвік, смаляне! Потым бацька прыб'е на бярозе той домік – колькі не глядзі, шпакоў няма і няма. Ажно крыўдна, а назаўтра яны ўжо тут – збіраюць па агародзе, што пахне цвілым, плесневым холадам, сухую траву, пер'е, носяць у сваё жытло, а неўзабаве яна, шпачыха, – усярэдзіне, а ён сядзіць побач і падбадзёрвае свістам-песняй.

Цяплее. Поле сушэе, шарэе і ўсмоктвае ў сябе ваду; выпырсквае каля плота маладзенькая, яшчэ не пякучая крапіва (хутка з яе і буракоў ды костачкі будзе спажыўное варыва), на заплесненых узгорках імкнуцца ўвысь дзьмухаўцы, падбел і ўжо хутка зацвітаюць. Спрасоння лётае, басавіта гудзе адзінокі бухматы, ахаладнелы і агаладалы за зіму чмель. Пасля дажджу змываюцца цвіль і плесень, а тыя прасторы, дзе жыта, нібы накрытыя зялёнай коўдрай, ажно ўпіваешся вачыма той зеленню. Ужо не толькі курэй, але і авечак, карову і цяля, каня не ўтрымаць у цесным хляве, усе рвуцца на сонечны двор, а з яго на загуменне і не хочуць вяртацца ў цесныя, з утаптаным, але ўсё роўна з высокім подсцілам загарадкі.

Ды не заўсёды за яснотай і прыгрэўкам выцепліваецца. Бывае, раптоўна хмурэе, сцюдзёнее і ашмоццем падае мокры снег, а то нават і закружыць, замяцеліць ім. Пасля можа задоўжыцца яшчэ сіверны дождж, а з ім і непрыемны сыры холад. Перастае цурчэць бярозавы сок, нават абвісае ледзяшамі, пакутуюць паўраскрытыя, прыбеленыя пупышкі-кветкі на слівах, а яблыні ўвогуле застылыя – як і зімой, ні кветак, ні лісця. Паніклі не толькі прылётныя на першы цёплы подых шпакі, але і перазімаваныя тут вёрткія (асабліва каля курынага карытца), гавэндзістыя вераб'і. Як толькі ўз'юшаная непагадзь усё ж мусіць здацца, зноў, але больш падвысіцца, паблакітнее неба, заласкавее, заярчыць і пальцецца цяплом сонца, абкінецца празрыста-зялёненькім вэлюмам і пачне апушвацца лісцем наша бяроза, – маці (невысокая, бацьку па плячо, рухавая, рупная, гаваркая і пры добрым настроі жартаўлівая і песністая), Генік і яго сястрычка Ганначка (па-янкавінскаму Гандзя, Гандзячка) з узнёслым настроем ідуць у гародчык. Сястра яшчэ малая, але, як тая мурашачка, нязграбна, але ўвішна турзае да сябе і ад сябе граблі, ссоўвае леташняе лісце і бадыллё, ён з маці рыдлёвяць яшчэ ўвосень угноеную, цяпер пасыпаную попелам, пакуль што цежкаватую зямлю. Ускапанае маці раўняе, выгладжвае, выбірае затоеныя ў зіму белыя карэньчыкі,якія пазней ажывуць, пырснуць сваёй недагледжанай, але магутнай пустазелістай сілай... Вецер абвявае раллю, і яна зверху сушэе.

У «добры» (спрыяльны) дзень» матуля дае ім, дзецям, апускаць у загадзя падрыхтаваныя ёй раўчуочкі днямі замочанае і цяпер крыху падсушанае насенне морквы, буракоў, гароху, а пазней летняга часнаку, цыбулі, агуркоў і гарбузоў. Маці ведае «ўрадныя» дні, як бацька знае, калі араць, сеяць увосень жыта, а вясной – авёс, садзіць бульбу.

Лецее. Вакол – на зямлі, на кустоўі і дрэвах – ужо ўгусцелая зелянота. Поплаў высахнуў, і на ім усё больш шчодрыцца мурог, а ля копанкі, дзе ўвечар заліваліся сваімі спевамі жабы і дзе хутка будзе шмат хвастатых апалонікаў, малажаданая дружная асака (яе, жорсткую, з неахвотай есць жывёла). Па баках поплава шыкуюць дзьмухаўцы, ад іх у вачах ажно жаўціць. Абліліся бела-ружовай квеценню яблыні, і пры іх удзень ажно гул ад галодных пчолаў. Геніку і Ганначцы – строгі наказ: «пасвіць» ад катоў, варон і ястраба куранят. Пасапраўднаму пасвілі і свіней. Бывала, на рахманай мацёры Генік і катаўся. А якая была радасць, калі аднойчы іхняя кошка ім, дзецям, на велізарную ўцеху выносіла з цёмнага гумна на светлы двор сваіх кацянят. Яны былі непрывыклыя да прасторы і яркасці, нязграбна тыцкаліся, блыталіся нават у траве пры плоце і жаласна мяўкалі! І якія былі шчырыя нашы дзіцячыя слёзы, калі бацька пакідаў самае «лоўчае» на мышэй кацяня (кошка выносіла яго першым), а астатнія раздавалі...



*Хутар Амшарок у сярэдзіне 1950-х гадоў*

*(Працяг будзе)*





# Сем цудаў Беларусі

***Аркадзь ТОЎСЦІК, журналіст:***

1) беларуская мова;
2) Крыж Ефрасінні Полацкай;
3) Белавежская пушча;
4) жыццё Ф. Скарыны;
5) возера Нарач;
6) творчасць Я. Купалы і Я. Коласа;
7) Беларусь-партызанка ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

***Глеб САНЮК, в. Казлевічы Баранавіцкага раёна, 1988 г.н.:***

1) унікальнасць беларускай мовы (помнік літары «Ў» у Полацку);
2) будынак Нацыянальнай бібліятэкі;
3) белавежскі зубр;
4) стары дуб-велікан (каля 50 метраў у вышыню) у Малырыцкім раёне;
5) тураўскія крыжы, якія растуць з-пад зямлі;
6) Статуты Вялікага княства Літоўскага;
7) Жыровіцкая ікона Божай Маці.

## У тэатры «Зьніч»

Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра «Зьніч» ўдзень **15 мая** запрашае на лялечны монаспектакль Л. Мікіты **«Пра ката Сафрона і пеўніка Андрона»**. Вясёлая гісторыя не толькі пазабавіць гледачоў, але і штосьці падкажа ім. Выканаўца – Леанід Сідарэвіч. На спектакль прымаюцца калектыўныя заяўкі.

Увечары **15 мая** – монаспектакль **«Кроткая»** паводле аднайменнай аповесці Ф. Дастаеўскага ў перакладзе А. Каляды. Выканаўца – заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Уладзімір Шэлестаў. «Цяпер пра само апавяданне, – зазначае аўтар. – Я называю яго «фантастычнае», хаця сам лічу яго ў найвышэйшай ступені рэальным...»

**18 мая** артыстка Алена Шапко запросіць гледачоў у вялікую вандроўку па іншых планетах і... у патаемныя куткі сваёй душы. Усё гэта – у спектаклі **«Мой Маленькі Прынц»** паводле казачнай аповесці А. Сент-Экзюперы.

**22 мая** – рамантычная монаопера А. Залётнева **«Адзінокі птах»**, прысвечаная палымянай любові Адама Міцкевіча да Бацькаўшчыны. Лібрэта напісала Г. Дзягілева. Выканаўца – заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Міхаіл Жылюк.

Музычна-паэтычны спектакль **«У краіне светлай, дзе я ўміраю...»**, створаны паводле твораў Максіма Багдановіча, пройдзе **29 мая**. Выканаўца Вячаслаў Статкевіч, музычнае суправаджэнне (гітара) і вакал – Сяргей Сарокін.

На **25 мая** запланаваная прэм'ера музычна-драматычнай прыпавесці **«Пачакай, сонца!»** паводле рамана Ліны Кастэнкі «Маруся Чурай». Аўтар інсцэніроўкі і выканаўца – Галіна Дзягілева, кампазітар – Алег Залётнеў. Таксама бярэ ўдзел Дзяржаўны камерны хор Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Наталлі Міхайлавай.

*По дадатковыя даведкі звяртацца па мінскіх тэлефонах 231-75-53, 615-26-79.*

## Смех і горыч

### Праўду сказаў

*Купляе мужык у цыгана каня. Усё, здаецца, у жывёлы на месцы. Мужык:*

*– Цыган! Купляю, скажы толькі, што ў яго не так.*

*– Скажу праўду: жалеза не есць і на дрэва не лезе.*

*– Ну-у, хіба ж тое дрэнна?*

*...Не падмануў цыган: конь цуглі ў рот не браў і на мост не ішоў.*

***Запісана ад Елісея Бунты, в. Пагошча***

### Аператыўнасць

*Пасля рэвалюцыі раcпрадаў пагашчанскі пан затанна сялянам зямлю і падаўся на Захад. Едзем назаўтра каля маёнтка, а мужыкі пачынаюць разбіраць панскі каровнік, дарэчы, нямаленькі. Вяртаемся ўвечары таго ж дня, а там – толькі голы фундамент: ні цаглінкі, ні шчэпачкі.*

***Запісана ад Уладзіміра Пятушкі, в. Новая***

### Нямецкая пунктуальнасць

*Прымушалі вайной немцы працаваць на лесапілцы. Напачатку немец-упраўляючы за пару хвілінаў перад працай стаяў з гадзіннікам і дубінкаю каля ўваходу. Хто спазніўся на 1 хвіліну, атрымліваў па спіне адзін удар, на 2 хвіліны – два... На наступны дзень працу можна было пачынаць раней ледзь не на паўгадзіны.*

### Дзедава мара

*У 60-х гадах ХХ стагоддзя мой дзед, удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі, сказаў:*

*– Сустрэў бы таго агітатара, што клікаў у 1917-м да рэвалюцыі, от даў бы па мордзе!*

*– Чаму?!*

*– Абяцаў: «Адбяром усё ў буржуяў – 200 гадоў працаваць не будзем!..»*

***Запісана ад Івана Шаломкага, в. Пагашча***

***(Паводле часопіса краязнаўцаў Браслаўшчыны «Павет»)***



***Мастакоўская сядзіба Барыса Цітовіча ў Заброддзі непадалёк ад Вілейкі***

***Фота Ўладзіміра ПУЧЫНСКАГА***

*Кафля з Міра*

## Сусветны дзядзінец

**1390-я.** Скасаванне ў ВКЛ асобных удзельных княстваў, цэнтралізацыя дзяржавы.

**1392 г.** Вітаўт становіцца пажыццёвым вялікім князем ВКЛ.

**1588 г.** Кароль Іспаніі пасылае медыка Фернандэса ў Мексіку для вывучэння невядомых еўрапейцам раслін і прадуктаў харчавання. Ёсць думка, што менавіта той медык завёз у Еўропу тытунь.

**1791 г.** У Францыі ўкараняецца новая сістэма сувязі – семафор.

**1842 г.** У Англіі выпускаецца ўпершыню наваготняя паштоўка.

**1877 г.** Амерыканскі вынаходнік Э. Берлінер стварае мікрафон.

**1900 г.** Н. Стаблфілд дэманструе першы мабільны тэлефон, знаходзячыся са сваім вынаходніцтвам на параходзе.

**1917 г.** Ваенны наркам Савецкай Расіі Л. Троцкі прапануўвае выкарыстаць у барацьбе гільяціну супраць тых, хто не прымае Савецкую ўладу.

**1940 г.** Гітлер падпісвае асноўную дырэктыву № 21 «План Барбароса», што прадугледжвае нечаканы і хуткапераможны напад на СССР з 15.01.1941 г. Вайна пачалася 22 чэрвеня 1941 г.

**2001 г.** Афганскія талібы ўзарвалі старажытныя помнікі будыйскай культуры нават насуперак просьбе многіх мусульман.

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**ВЕЛІКОДНАЯ ПІСАНКА** – беларускія літаратурна-мастацкія выданні пачатку XX ст. Пачаліся яны з першага нелегальнага зборніка, выдадзенага геактаграфічным спосабам студэнцкай культурна-асветнай арганізацыяй «Круг беларускай народнай прасветы і культуры» ў Пецярбургу ў 1904 г., калі яшчэ беларуская мова афіцыйна была забароненая (дазвол на яе царскім урадам будзе дадзены ў 1905-м). У зборніку змешчаны вершы Цёткі, К. Каганца і апавяданне С. Жаромскага «Да свайго бога». Ён ажывіў інтарэс грамадскасці да беларускай мовы і культуры, стаў прадвеснікам беларускага кнігадрукавання на новым этапе. Другі зборнік, як мяркуюць, прысвечаны 10-годдзю першага, быў выдадзены друкарскім спосабам у 1914-м. У ім пабачылі свет верш Я. Купалы «Валачобнікі», артыкулы М. Гарэцкага «Развагі і думкі» і Л. Гмырака «Беларускае нацыянальнае адраджэнне», апавяданні Я. Коласа, Зм. Бядулі, К. Лейкі.

**ВЕЛІКОДНЫЯ ПЕСНІ** – народныя творы каляндарнаабрадавай паэзіі, прысвечаныя да Вялікадня. Калі валачобныя песні мелі абрадавы характар і выконваліся на першы дзень свята, то да велікодных песень звярталіся даўжэй, і яны мелі не толькі абрадавае, але і гумарыстычнае значэнне. Некаторыя даследчыкі ўсё ж не зусім аддзялялі адна ад адной тыпы гэтых песень, тым больш, што паступова велікодныя песні растварыліся ў іншых цыклах і пачалі страчваць самастойнасць.

**ВЕНЗАЎШЧЫНА** – 2 каменныя могільнікі каля в. Вензаўшчына Шчучынскага раёна. Былі балцкага і часткова мазавецкага паходжання. У курганах 1-га могільніка (X–XII стст.) адзначаны пахаванні трупапакладам галавой на захад у ямах, амаль кожны нябожчык быў сярод дошак. У 2-м могільніку (X – пачатку XV) хавалі ўжо галавой на поўдзень і на паўднёвы захад (ёсць і трупаспаленне, і дамавіны. Як ёсць і больш позні пахаванні на месцы ранейшых). У могільніках знойдзены фрагменты ляпной керамікі, бронзавыя ўпрыгажэнні, рэчы гаспадарчага ўжытку, кавалкі скураных вырабаў, у 2-м могільніку – грошы ВКЛ.

**ВЕРАБ'ІНАПАДОБНЫЯ** – атрад птушак, якіх на Беларусі 109 відаў (аўсянкавыя, валасянкавыя, драздовыя, жаваранкавыя, каральковыя, крумкачовыя, ластаўкавыя, сініцавыя, сітаўкавыя і інш.). Жывуць у розных мясцінах (палі, лясы, балоты і інш.), у вёсках і гарадах (ластаўкі, вераб'і і інш.). Гняздзяцца на зямлі, у норах, шчылінах, у кронах і дуплах дрэў. Колькасна пераважаюць сярод птушак-мігрантаў (каля 97 працэнтаў); на зімоўку адлятаюць у жнійні-кастрычніку, асноўная маса – у верасні; вяртаюцца з 2-й паловы лютага. Ёсць аселыя (вераб'і, попаўзень, пішчуха) і вандроўныя (стракаты дзяцел, сініцы і інш.). У большасці харчуюцца насякомымі, некаторыя і раслінаедныя. Дробныя і сярэдніх памераў. Самы буйны – крумкач (вага да 1,6 кг), найбольш мініяцюрны – жоўтагаловы каралёк (5–7 г). Жывуць парамі. Полавая спеласць настае пасля 1 года, у буйных відаў пазней. У кладцы 4–6 стракатых ці аднаколерных яек, у асобных відаў можа дасягаць і 16. Наседжваюцца яны 10–20 сутак. Птушаняты знаходзяцца ў гняздзе 10–12, у нора- і дуплагняздовых (сініцавыя, попаўзень) 23–26 сутак. Амаль усе знішчаюць шкоднікаў палёў і лесу, хоць некаторыя часамі і самі наносяць шкоду (сініцы і іншыя могуць лавіць пчол, вераб'і апусташаць сланечнікі).

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасны – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць свае прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас. Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 04.05.2006. Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0056609 ад 27.02. 2004 г.) Заказ 693. Тыраж 1480 асобнікаў.